# наша свабода

№69 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

24 КАСТРЫЧНІКА 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




стр.5

## Чыкнутае тэлебачынне

## Замацаваць перамогу

**Алесь ШМЯЛЁЎ**

Сойм БНФ, які прайшоў у мінулую суботу, вызначыў асноўнай задачай аб'яднанай дэмакратычнай апазіцыі на бліжэйшы час замацаванне ў свядомасці беларускага грамадства таго факту, што выбары ў палату не адбыліся і беларуская апазіцыя дамаглася таго, што акцыя «Байкот-2000» прайшла паспяхова, што прывяло да перахопу палітычнай ініцыятывы. Дзеля выканання гэтага будзе распаўсюджаная значная колькасць друкаванай прадукцыі, у якой будуць паведамляцца самыя значныя парушэнні ў ходзе выбараў і даводзіцца доказы іх фальсіфікацыі. Першай ластаўкай стала выданне паўмільёным накладам спецвыпуска НАШАЙ СВАБОДЫ, прысвечанага выбарчай тэматыцы. ■

## Беларуская самапомач

**Міхал ЗАЛЕСКІ**

**Праект ПРААН «Спрыянне стварэнню інстытута крэдытных таварыстваў у Рэспубліцы Беларусь» разам з міністэрствам прадпрымальніцтва і інвестыцыяў абвясціў конкурс праектаў.**

Мэта конкурсу — прыдумаць спосаб, у які суб'екты малога прадпрымальніцтва здолеюць такі хаўрус стварыць, каб без страху і па праве адно аднаму грошы на павер даваць. Арганізатары жадаюць, каб тыя хаўрусы мелі на мэце акумуляцыю і ашчаджэнне назапашаных прадпрымальнікамі грошай.

Дарэчы, гэтае новае — вельмі добра забытае старое. За часамі клятага царызму таварыствы ўзаемнага крэдыту — установы кааператыўнага тыпу — аб'ядноўвалі на Беларусі больш як 500.000 удзельнікаў. Крэдытныя (кароткатэрміновыя) укладанні гэтых установаў на 1 студзеня 1914 складалі 109 млн.руб. Дзеля параўнання – на той самы час астаткі пазыкаў пад заклад 7 млн.га зямлі складалі 217 млн.руб.

Так што, калі хто мае новыя ідэі ў гэтай складанай за рынкавым сацыялізмам справе, можа да 20 лістапада падаваць свае прапановы арганізатарам і чакаць матэрыяльнай і тэхнічнай дапамогі са сродкаў ПРААН. ■

## Полька ў кіраўніцтве ЕБРР

20 кастрычніка прэзідэнт Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР) сп. Жан Лем'ер запрасіў заняць месца віцэ-прэзідэнта банка Ганну Гранкевіч-Вальц, якая выконвае абавязкі прэзідэнта Нацыянальнага банка Польшчы. Пані Гранкевіч-Вальц дала згоду. Яна пачне працаваць у сядзібе ЕБРР у Лондане са снежня 2001 года. Па словах сп. Лем'ера, пані Гранкевіч-Вальц адна з найпаважаных кіраўнікоў Цэнтральных банкаў свету – інтэлігентная, прадказальная, добра разумее праблемы рэгіёна, у якім працуе ЕБРР.

Такі выбар — несумненна поспех для Польшчы, бо гэта пасада адна з найважнейшых у іерархіі міжнародных арганізацыяў. Гэта не толькі яе асабісты поспех, але і прызнанне поспехаў польскай гаспадаркі.

Пані Гранкевіч-Вальц займала пасаду Прэзідэнта Нацыянальнага банка Польшчы з 1992 года, куды яе запрасіў Лех Валенса. У 1998 годзе тое ж зрабіў Аляксандр Квасьнеўскі. ■

*Gazeta wyborcza, 22.10.2000*

# За міліцэйскае вуха разлічыліся

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

**Два гады турмы ўмоўна з адтэрміноўкай на год атрымала жонка былога прэм'ера Юлія Чыгір. Таксама на год для жонкі экспрэм'ера пакінута такая прэвентыўная мера, як падпіска аб нявыездзе.**



Фота Ул. ШЛАПАКА

Суд над Юліяй Чыгір, які скончыўся мінулай пятніцай, доўжыўся два тыдні. Столькі часу спатрэбілася, каб разгледзець справу пра пакусанае вуха міліцыянту Анатолю Амельчанку. Нагадаем, гэта адбылося 19 траўня, у дзень агалошвання прысуду экспрэм'еру Міхаілу Чыгіру. Тады на ганку суда ўзнікла цісканіна, якая прывяла да сутычкі з міліцыянтамі. Юлія Чыгір і ейныя сведкі лічаць, што прычынай сталі непрафесійныя, а магчыма, і правакацыйныя дзеянні міліцыянтаў. Калі б яны своечасова прапускалі жадаючых у будынак суда, у першую чаргу сваякоў Чыгіра, а не затрымалі людзей перад дзвярыма, сутычка б не ўзнікла. А так давялося Юліі Чыгір умешвацца, прасіць за сваякоў. У выніку яе паспрабавалі ізаляваць з месца падзеяў, нанеслі траўму ды яшчэ абвінавацілі ў процідзеянні міліцыянту, хоць насамрэч яна толькі абаранялася ад неадэкватных дзеянняў ахоўніка парадку.

Цікава, што падчас працэсу маёр Анатоль Амельчанка пагадзіўся з меркаваннем, што міліцыянты ў той дзень дзейнічалі не лепшым чынам, хоць і адмовіўся ўдакладніць прозвішчы вінаватых начальнікаў. Ён заявіў, што «абмяркоўваць загады начальства не мае права». Суд, аднак, гэтую заяву палцярпелага не ўлічыў. Усю адказнасць за інцыдэнт, у якім удзельнічалі не менш дзесяці натрэніраваных мужыкоў, усклалі на адну жанчыну. Юлія Чыгір , аказваецца, «білася, размахвала рукамі, штурхалася «і ў рэшце рэшт справакавала сутычку з амапаўцамі, у выніку якой аднаго міліцыянта нават пакусала. Паводле суддзі Іны Угнівенка і двух яе памагатых, два гады ўмоўна за гэтую траўму – гэта яшчэ невялікае пакаранне. Маўляў, можна было б даць і пяць гадоў ці тры, як прасіла пракурор.

Ужо ўчора Юлія Чыгір падала касацыйную скаргу на прысуд Фрунзенскага раённага суда. Жонка экспрэм'ера будзе дамагацца яго адмены і заяўляе, што гэтая справа ўсё роўна калі-небудзь будзе перагледжаная. Юлія Чыгір упэўнена, што з ёй звялі рахункі за тую публічную крытыку, якую яна выказвала на адрас вышэйшага кіраўніцтва краіны, пракуратуры і міліцыі, калі арыштоўвалі, трымалі за кратамі, а потым судзілі яе мужа Міхаіла Чыгіра. А міліцэйскае вуха – гэта толькі падстава для помсты, замест вуха магло быць што заўгодна. ■

# Вехи нашей свободы




**В течение нескольких дней в Беларуси находилась исполнительный директор Международной Лиги прав человека – одной из самых влиятельных в мире правозащитных организаций госпожа Кэтрин Фицпатрик. Мы воспользовались благоприятной возможностью узнать ее точку зрения на выборы и на ситуацию с правами человека в нашей стране.**

***— Проводила ли Ваша организация наблюдение за выборами в палату представителей национального собрания Республики Беларусь? Что думают американские правозащитники об этих выборах?***

— Я должна пояснить, что мы не наблюдаем непосредственно за выборами. Правозащитное движение в Америке состоит из коалиции, примерно, 12 организаций – *Human Rights Watch, Amnesty International*, наша Лига и т.д. И за выборами мы не наблюдаем нигде. У нас нет такого порядка, потому что считаем: организации такого рода не должны следить за выборами. Ведь то, что обычно наблюдатели видят непосредственно в день голосования – это еще не показатель демократичности всего процесса. Как правило, мы начинаем наблюдать за ситуацией с правами человека в той или иной стране задолго до выборов. Потому что именно за год, за два, а бывает и за пять недемократичная власть начинает закрывать независимые газеты, телевизионные станции, радиостанции, как, например, у вас – Радио 101,2. И поэтому для нас самое главное – это свобода собраний и свобода прессы. Но если нарушаются все эти права, мы уже заранее можем констатировать факт, что эти выборы не должны быть признаны. Поэтому для нас было ясно еще год назад, что эти парламентские выборы, как и местные, нельзя будет считать справедливыми. И мы с большим пониманием отнеслись к бойкоту выборов белорусской демократической оппозицией. Потому что, в ваших условиях, с таким террором против оппозиции и правозащитных организаций, против профсоюзов, нет других механизмов для выражения своей воли.

***— Считаете ли Вы правильным решение ОБСЕ прислать накануне выборов в Беларуси своих технических работников?***

— У нас выработана четкая позиция по отношению к поведению ОБСЕ. Если в этой организации принята двухступенчатая система – либо полное наблюдение, либо техническая группа, то лучше было бы, если бы они вообще не наблюдали и не присылали своих технических работников. Это было бы лучше всего в данной ситуации. В условиях нынешней Беларуси, как и Азербайджана и Казахстана, когда закрывают газеты, запугивают людей, когда основные права человека нарушены. ►

*Окончание на стр.3*

## НАВІНЫ

■ **Болей за палову беларусаў жыве зараз па-за пражытачным мінімумам.** Пра гэта на прэс-канферэнцыі з нагоды міжнароднага дня ААН заявіў каардынатар Прадстаўніцтва гэтай арганізацыі ў Беларусі Ніл Бунэ. На 100 тысячаў жыхароў у нас прыпадае ў 2 разы болей урачоў, чымсьці, напрыклад, у Вялікабрытаніі, але пры гэтым колькасць людзей, якія не дасягнуць узросту 60 гадоў, удвая большая.

■ **Жыхары Крычава пачалі масава і ажыятажна зарабляць донарствам.** На мясцовай станцыі пералівання крыві ўжо сабралася чарга каля 70 чалавек. Справа ў тым, што нядаўна здача крыві падаражэла і складае зараз 7 тысячаў рублёў за 400 грамаў. А гэта неблагая дабаўка да жабрацкіх заробкаў.

■ **На мінулым тыдні на Барысаўскім заводзе агрэгатаў прайшоў стыхійны страйк.** Рабочыя каля гадзіны пратэставалі супраць затрымак заробкаў і невыканання адміністрацыяй працоўных дамоваў. Дырэктар завода з накіраванай да яго дэлегацыяй ад працоўных прадпрыемства гаварыць адмовіўся. Рабочыя збіраюцца працягнуць страйкі.

■ **Клімавіцкі райвыканкам прыняў рашэнне аб распрацоўцы новай геральдыкі горада.** Пакуль невядома, чым збіраюцца замяніць старажытны герб, нададзены Клімавічам разам з магдэбургскім правам (гэта залатая пчала ў блакітным небе). Сімволіку горада ўжо змянялі. Напрыклад, напрыканцы 18 стагоддзя ў герб дадалі двухгаловага арла з царскай каронай.

■ **У Магілёве вырашылі змагацца са злачынствамі ў школьных сталоўках.** Пры аблвыканкаме створаная адмысловая камісія, якая будзе ладзіць кантроль «за харчаваннем дзяцей». Яна зоймецца ліквідаваннем такіх парушэнняў у школьных сталоўках, як бруд, крадзяжы харчоў, кепская якасць страваў і занадта малыя порцыі.

■ **У Гродне адчыніўся першы ў Беларусі музей тэраталогіі.** У ім – калекцыя з паўсотні экспанатаў чалавечых анамаліяў. Тут ёсць чалавек-бульдог, дзіця з двума тварамі, цыклопы. Размешчаны музей у колішняй рэзідэнцыі Стэфана Баторыя, дзе зараз знаходзіцца кафедра анатоміі мясцовага медыцынскага ўніверсітэта.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1065**

# Лукашенке прислали нового посла из Вашингтона

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**В минувшую пятницу в Минск прибыли новый посол США в Беларуси господин Майкл Козак с супругой. За последние 8 лет суверенной Беларуси это уже четвертый глава дипломатической миссии, присланный Вашингтоном в Минск.**


Фота Ул.ШЛАПАКА

Стоит вспомнить, что два предшественника Майкла Козака имели большие проблемы с А.Лукашенко. Так, при после К. Яловице в небе Беларуси были сбиты и погибли два американских воздухоплавателя, потом был изгнан из Беларуси фонд всемирно известного филантропа Джорджа Сороса. А посла Д.Спекхарда с семьей и вовсе грубо выставили из собственной резиденции в Дроздах. Краткая история белорусско-американских отношений богата и некоторыми другими скандалами. На жесткий стиль официального Минска уже и посол М.Козак напоролся. Его сравнение руководителей Беларуси и Кубы, как двух диктаторов, которое М.Козак высказал во время своего выступления в Конгрессе США, вызвало бурную реакцию Минска. Как известно, до приезда в Беларусь М.Козак работал в Гаване. МИД Беларуси по поводу высказываний М. Козака в Конгрессе направил в Вашингтон гневное заявление. Не каждый новый посол удостаивается такого рода заявлениями в свой адрес перед приездом к месту работы. Кое-кто ожидал, что по приезду в аэропорт Минск-2, посол М.Козак сделает еще одно критическое заявление в адрес правящего режима в Беларуси. Но пока никакой реакции на прочитанное им в аэропорту официальное заявление не последовало.

По неофициальной информации, утечку которой вполне сознательно допускали некоторые высокопоставленные чиновники из администрации А. Лукашенко, в случае очередных недружелюбных, по их мнению, высказываний посла США в адрес режима, у прибывшего представителя Вашингтона могут возникнуть трудности. Среди них назывались, например, сроки вручения верительных грамот. По протоколу, лишь после этой процедуры иностранный посол может полноценно приступить к своим обязанностям. Правда, сами представители властей не упустили возможности отметиться резкими, вернее примитивными высказываниями в адрес позиции Вашингтона по поводу прошедших выборов в Беларуси и о поддержке демократической оппозиции. Надо полагать, к ним психологически был готов новый посол США. А вот к воспоминаниям А.Лукашенко о совместных трапезах в Нью-Йорке с В.Путиным и Б.Клинтоном, с которыми правитель поделился перед одной группой журналистов, очевидно господин М. Козак не смог остаться равнодушным. Впрочем, как и многие остальные зрители.

Встречавшая же в аэропорту господина М.Козака другая группа журналистов, многим из которых возможность послушать лично А. Лукашенко давно заказана из-за открытой оппозиционности, надеялась, что получит ответы посла на некоторые свои вопросы. Например, правда ли, что посол привез какое-то письмо от Б.Клинтона и располагают ли могущественные американские спецслужбы новой информацией об исчезнувших белорусских оппозиционерах? Ведь в исчезновении последних зачастую обвиняют разные иностранные спецслужбы. Но господин посол, с большим тактом и уважением пообещал журналистам ответить на их вопросы несколько позже. Можно предположить, что это произойдет во время президентских выборов в США, за ходом голосования которых посольство намерено пригласить гостей понаблюдать путем прямой телетрансляции. Предполагается, что среди них будет немало журналистов. А пока, во время своей первой встречи с ними на белорусской земле, посол М.Козак поделился надеждой, что будущий год дает белорусам возможность вырвать свою страну из нынешней изоляции. Он также сказал, что в качестве представителя Соединенных Штатов в Беларуси в этот исторический момент постарается внести свой вклад в усилия белорусского народа «достигнуть позитивного результата».

Помнится, один интересный момент в истории Беларуси уже обещал Стивен Сестанович — высокопоставленный чиновник госдепартамента во время своего визита в Минск. Под таким моментом многие понимали возможность трансформировать режим в сторону либерализации через разные «коридоры», которые бы прервали нараставшую тогда внешнеполитическую изоляцию Беларуси. Прошли годы. Оппозиционное поле оказалось старательно прополото и контролируемо. С Европой и США воз и ныне там. А некоторые оппозиционеры просто бесследно исчезли. Теперь уже элементы так называемой белорусской модели правления многие наблюдатели находят в политике Кремля. Так что свой «кубинский» опыт послу М.Козаку придется существенно обогатить. И причем в довольно короткие сроки. ■

## Заявление посла США Майкла Козака в аэропорту Минск-2

Добрый день.

Мы с Айлин очень рады наконец-то оказаться здесь. Мы ожидали этого назначения более года, и сейчас оно стало реальностью. В течение ближайших месяцев мы надеемся побывать во всех регионах страны. Мы рады возможности работать в Беларуси. В личном плане это даст нам возможность самим соприкоснуться с богатой культурой вашей земли. Беларусь дала миру достаточно много известных художников, писателей, танцовщиков и, как продемонстрировали недавние олимпийские игры, замечательных спортсменов.

Мы также ждем возможности более глубоко изучить историю Беларуси, которая, насколько мне известно, знала как трагические периоды, оккупацию и репрессии, так и героическую борьбу за свободу и человеческое достоинство.

Как профессионалу мне импонирует сложность тех задач, которые Президент поставил перед коллективом нашего Посольства. По всему миру Соединенные Штаты в сотрудничестве с другими странами предпринимают усилия для содействия демократическому развитию. Это важно для нас по двум причинам.

Во-первых, поскольку американцы высоко ценят свою свободу и то процветание, к которому она нас привела, мы, естественно, испытываем желание поделиться этими благами с другими.

Во-вторых, для нас это вопрос международной безопасности. Стабильные, процветающие демократии не развязывают войн, не становятся источником гуманитарных кризисов — таких, как массовый исход беженцев, и не нарушают международную стабильность каким-либо другим способом.

Соединенные Штаты убеждены, что демократическая, процветающая и действительно независимая Беларусь — это ключ к долгосрочной стабильности этого региона. По этой причине, а также потому, что мы хотим придать новый импульс нашим дружеским отношениям с белорусским народом, которые имеют достаточно долгую историю, мы будем всеми приемлемыми способами работать с нашими друзьями и союзниками в Европе, с демократическими силами, представляющими весь политический спектр Беларуси, чтобы способствовать достижению главной цели: демократической, процветающей и независимой Беларуси, которая может поддерживать тесные и плодотворные отношения со всеми своими соседями.

Наступающий год, как нам видится, предоставляет Беларуси решающую возможность вырваться из существующей изоляции и присоединиться к процветающему, демократическому содружеству наций, которые окружают ее в Европе. Я рад оказанному мне доверию представлять Соединенные Штаты в Беларуси в этот исторический момент и надеюсь внести свой вклад в усилия белорусского народа по достижению позитивных результатов.

# Вехи нашей свободы

*Окончание. Начало на стр.1*

— Выборы и демократия, как говорил мэр одного американского города, это последний этаж дома, а права человека – это все-таки его база, фундамент. Как правило, есть ошибочная тенденция у международного сообщества – делать все ставки только на демократические выборы. И в противном случае, что им делать? Если они видят, что выборы ниже стандартов, не соответствуют нормам, что отмечаются массовые нарушения до выборов и в день голосования?

Поэтому у нас была такая позиция по действиям ОБСЕ накануне выборов в Беларуси: нужно прислать небольшую команду, зафиксировать существующее положение и уехать. И в день голосования вообще не присутствовать. Важно было, чтобы они не встретились с президентом. Мы считаем, что это просто грех. Накануне выборов, тем более, парламентских, встречаться с Лукашенко – это плохой сигнал народу. Конфуз возникает: почему на таком уровне встретились с тем человеком, который не выполнил четырех условий ОБСЕ. По четырем заявленным условиям, кстати, можно сказать, что они – свободный доступ к СМИ, функции парламента, период мира, прекращение репрессий – чисто правозащитные позиции. Их надо соблюдать. ОБСЕ надо было заставить соблюдать собственные условия. Слава богу, они не направили сюда полноправную делегацию. Была небольшая группа, их сотрудники не встречались с президентом. И на том спасибо. Для международной прессы это был непонятный момент, сейчас он понемногу прояснился. Что это? Наблюдение, оценка? Поэтому, лучше не наблюдать вовсе.

Например, не было никакого присутствия ОБСЕ в Сербии, и все поняли, благодаря общественности, партиям, журналистам, что Коштуница победил. И без всякого ОБСЕ. Это было. И мы считаем, что и в Беларуси можно было бы действовать подобным образом.

Мы знаем, что на первой программе телевидения не было ни одной встречи с организаторами бойкота выборов. Интервью проводились только с теми, кто вышел из бойкота, из договоренностей объединенной оппозиции. И это очень печально, конечно. Печально, что использовалось слово «наблюдение». Власти пригласили массу самых разных представителей из стран СНГ по своим старым коммунистическим связям, случайных и ангажированных наблюдателей – это, конечно, нельзя назвать независимым наблюдением.

Я знаю, что дипломаты, и американские в том числе, слова «бойкот» пугаются. У них возникает ощущение, что это затеяли радикалы, которые не хотят участвовать в выборах. Есть такое мнение, что надо обучаться, использовать выборы, тренироваться, иначе народ не будет знать, как действовать. Иначе, мол, как можно участвовать в президентских выборах?

Я считаю, что в Беларуси уже есть положительный опыт участия в выборах. Уже избирался Верховный Совет тринадцатого созыва и президент. Этого опыта вполне хватает. Беларусь – не Казахстан. И люди здесь достаточно обучены, не нужно заставлять их выходить на фарс для приобретения навыков. Поэтому, очень важно, что международная общественность с уважением отнеслась к бойкоту выборов демократической оппозицией. И мы приветствуем отчет парламентской «тройки» ОБСЕ, заявление американского Госдепартамента о том, что они не признают выборы.

***— Как, на Ваш взгляд, должны действовать журналисты во время выборов в стране, где грубо нарушаются основные права человека?***

— Я знаю, что существует такая практика в международной журналистике: быть объективным, равномерно освещать все стороны. Это когда правила игры известны и все согласны с этими правилами. В развитых демократических странах они известны, справедливы, все с ними считаются. У вас нет правил игры. Как же развивать прессу в таких условиях, как журналист должен себя в таких условиях вести?

Я считаю, что независимую прессу нужно обучать быть объективной. Быть объективным – это не только давать разные мнения из разных источников информации. Редакция имеет право формулировать свое мнение. Пресса не должна быть настолько нейтральной, чтобы не выражать мнения. Есть известная практика.«Нью-Йорк Таймс», например, всегда выбирает своего кандидата и сообщает об этом за несколько дней до выборов. В этом нет ничего плохого. Никто не обвиняет газету в предвзятости, потому что на ее страницах в достаточной мере представлены все кандидаты и их точки зрения. Но в редакционной колонке приоритет редакции выражен четко. То есть, объективность подразумевает, что умные люди могут самостоятельно оценить какое-то событие на основании изложенной информации.

Я считаю, что в переходных странах должна быть коммерческая пресса. Но все-таки оппозиция должна иметь свою прессу, и ничего плохого в этом нет. Это нормальная стадия развития. Это было в Польше, Чехии, Словакии, в Англии в свое время, в Америке. Пропартийная пресса – благородное понятие. Более того, объединенная демократическая оппозиция вправе рассчитывать, что вся свободная пресса будет на ее стороне до той поры, пока в стране не будут реализованы права на свободу слова. Этих прав нет: гонят, закрывают, не регистрируют... Это, собственно, правозащитная борьба. На этом этапе такая позиция свободных СМИ – правозащитная позиция. Я понимаю, что это многих не устраивает, и звучат обвинения в политизации, но в стране, где президент хочет быть на каждой марке, даже человек, который собирает марки, уже политизирован. И мы можем только выступить за права этих газет. Мы не будем называть их политизированными, необъективными. Вместе с тем у меня есть замечания к некоторым оппозиционным газетам: может быть несколько жестко, эмоции очень накалены. Зачастую нарушается последовательность в освещении событий и читатель не получает картину во всей полноте.

Существующая практика доноров свободной прессы не совсем верна. Они пытаются развивать бизнеспроекты, деловые порядки, чтобы газеты были рентабельными, определенного формата, содержания. Я думаю, что это нонсенс. Потому что независимой оппозиционной газете реально получить рекламу в нынешних условиях невозможно, развиваться нормально по бизнесплану просто немыслимо, мне кажется. Надо сознательно идти на развитие оппозиционной прессы.

Когда-то польская «Газета Выборча» была явным сторонником «Солидарности», не стала участвовать в национальном диалоге с коммунистами, пока «Солидарность» не села за стол переговоров, как равный партнер власти. И в других странах было так же. В Румынии, ГДР... Это неизбежный этап. ■

**С Кэтрин ФИЦПАТРИК беседовал Александр ДУБРАВИН**

# Лукашенко призвали к порядку

Людмила РОМАНОВА

**Ельцинская эпоха политического панибратства в отношениях Москвы с бывшими советскими республиками, похоже, подошла к концу.**

Подтверждением тому может служить вчерашняя встреча президентов России и Белоруссии Владимира Путина и Александра Лукашенко в сочинской резиденции «Бочаров ручей», которой предшествовали довольно напряженные кулуарные дискуссии. Спорили о формате. Белорусский президент представлял свой сочинский вояж если не как краткосрочный отпуск, то по меньшей мере как неформальный визит. Кремлевские чиновники, напротив, ставили акценты на официальности. Так, замглавы администрации президента Сергей Приходько упорно называл сочинский диалог «саммитом» или исключительно важной для российско-белорусских отношений встречей в верхах.

Официальные настроения одержали верх. Встреча состоялась не только при пиджаках и галстуках, но и в присутствии всего штата помощников как с той, так и с другой стороны. Запротоколированность встречи стала своеобразным ответом Москвы на недавние заявления белорусского лидера, прозвучавшие во время центральноазиатского визита Владимира Путина. Тогда Лукашенко намекнул, что в качестве благодарности за защиту западных границ России Москва должна пересмотреть условия поставок газа в Белоруссию. Кремлю эти заявления, надо полагать, не понравились, и Александру Лукашенко решили напомнить, что интеграция интеграцией, но неплохо бы при этом играть по правилам.

Впрочем, отделаться от старой политической традиции оказалось не так уж просто. Александр Лукашенко прибыл в Сочи не только для обсуждения интеграционных деталей, но и за политической поддержкой Москвы в вопросе о недавно состоявшихся в Белоруссии парламентских выборах, которые западное сообщество единогласно признало недемократичными. И Лукашенко все-таки нашел повод поблагодарить российского президента за «величайшую поддержку», то есть невмешательство.

Главы государств обсудили предстоящее заседании Высшего Госсовета России и Белоруссии, которое пройдет в Минске через полтора месяца, а также структуру аппарата Союза. Осудив бюрократию, стороны договорились о том, что исполнительный комитет должен состоять из 110 человек. Однако чем именно будет заниматься каждый из них, пока не вполне понятно. Как заявил Владимир Путин, «людей будем подбирать под дела».

В области экономики стороны достигли договоренности о проведении антикоррупционных мер в таможенной сфере. Лукашенко охарактеризовал эти намерения как попытку «осуществить революцию в таможенной политике». Путин же обратил внимание на сближение налогового законодательства двух стран. О введении единой валюты стороны не говорили — сочли, что пока не время, но, несмотря на это, в ходе встречи президенты нашли достаточно подтверждений тому, что Союз России и Белоруссии не умер. ■

ІНТЭРФАКС

## Маскоўская міліцыя ўстала на абарону брытагаловых пагромшчыкаў



У суботу вечарам у Маскве група з некалькіх дзесяткаў брытагаловых хуліганаў напала на в'етнамцаў – жыхароў інтэрната у 1-ым Балтыйскім завулку (раён станцыі метро «Сокал»). «Скінхеды» збілі «гасцей сталіцы» каля аднаго з дамоў па вуліцы Усіевіча. Ніякіх спробаў перашкодзіць фашыстоўскай расправе прадстаўнікі маскоўскіх праваахоўных органаў не прадпрынялі.

Але як толькі в'етнамцы паклікалі на дапамогу сваіх суайчыннікаў з інтэрната, адразу ж «прыбыўшыя на месца здарэння нарады міліцыі ўзялі сітуацыю пад кантроль», паведамляе агенцтва Інтэрфакс. В'етнамцы былі ў суправаджэнні міліцэйскіх патрулёў дастаўленыя да месца жыхарства. Ніхто з пагромшчыкаў пры гэтым затрыманы не быў.

У маскоўскім ГУУС кажуць, что ў выніку інцыдэнту сур'ёзна ніхто не пацярпеў, а сітуацыя кантралюецца супрацоўнікамі міліцыі. ■

# Израиль и Палестина в конфликте

## Мирное урегулирование требует нового подхода

Ричард ХААСС,

**вице-президент и директор Отдела по изучению внешней политики в Брукингского института, бывший главный советник президента Джорджа Буша по Ближнему Востоку**

**Во многих комментариях к событиям в Шарм-эль Шейхе высказывается идея о том, что поспешно созванный саммит был успешным. Реальность, однако, более сложна и в то же время более отрезвляющая.**



Да, израильтяне и палестинцы согласились сделать общественные заявления, призывающие к прекращению насилия. Обе стороны согласились принять меры, чтобы не вступать в открытый конфликт друг с другом. Премьер-министр Израиля Эхуд Барак и Председатель ОСП Ясир Арафат ничего не подписали. Более того, мы были свидетелями подобных соглашений раньше, но они приводили только к усилению насилия. Подобное с большой вероятностью может повториться.

Мирный процесс на Ближнем Востоке, длившийся более трех десятилетий, может завершиться. Иронию вызывает и факт, что происходящее случилось спустя несколько месяцев после попытки действительно разрешить израильско-палестинский конфликт.

Как ситуация достигла подобной точки? Некоторые показывают пальцем на Ариеля Шарона, приводя в пример его визит в Темпл Маунт в Иерусалиме. Более обоснованным утверждением будет то, что львиная доля ответственности падает на Ясира Арафата, который отказался от щедрого предложения Израиля в Кемп-Девиде. Затем он подлил масла в огонь, не сделав всего, что он мог, чтобы обуздать насилие, последовавшее после визита Шарона, и также освободив более ста террористов, заключенных в палестинские тюрьмы.

Суть в том, что теперь уже нет пути назад к ситуации, которую мы имели всего несколько недель назад. Репортажи о линчевании израильских солдат, о расстреле палестинского мальчика возымели действие. Голуби и уговоры с обеих сторон самоликвидировались.

В результате нет надежды, что какая-нибудь встреча в Кемп-Девиде сможет завершить то, что не удалось сделать на июльском саммите. Ясир Арафат не будет склонен более, чем он был, к тому, чтобы пойти на компромисс или пообещать окончание многолетнего конфликта. Маловероятно, что премьер-министр Эхуд Барак, подвергшийся критике в Израиле, пойдет навстречу настолько, насколько он был готов пойти.

Другой подход возвратит процесс мирного урегулирования туда, где он был всего несколько месяцев назад, а именно, к принятию скромных мер, обозначенных в Соглашении, заключенном в Осло. Проблема возобновления этой постепенной дипломатии заключается в настоящий момент в том, что ни одна из сторон не готова ей следовать. Израильтяне не в настроении уступать более осязаемую территорию за менее осязаемые обещания, что палестинцы будут хорошо себя вести, а палестинцы будут сопротивляться подписанию любого соглашения, которое не предоставит им гарантии на все, что они хотят получить.

Тем не менее, может быть и альтернативный путь для дипломатии, который я называю «совместный унилатерализм». Иногда для сторон оказывается возможным жить с определенными результатами, даже если они не могут формально подписать соглашение, ратифицирующее эти результаты. Такой вариант может сработать сегодня на Ближнем Востоке.

В этом случае обе стороны все равно должны будут разрабатывать сценарий событий. В центре будет признание Палестинского государства и аннексия Израилем областей с множеством переселенцев. Израильтянам придется отказаться от территории, на которой расположены поселения и которые не могут быть легко обороняемы. Палестинцы, проживающие за пределами этих территорий, смогут переехать в новое палестинское государство, но не в Израиль. Коротко говоря, обе стороны будут координировать реализацию наименее противоречивых аспектов соглашений, достигнутых в Кемп-Девиде, и отложат рассмотрение наиболее сложных вопросов, включая Иерусалим.

Результатом не будет мир или окончание конфликта, или церемония подписания соглашений в Белом Доме. Скорее, это станет де факто разделением двух сторон, отражающим молчаливую договоренность о стабилизации ситуации. Это по-прежнему потребует взаимодействия официальных лиц Израиля и Палестины, но это не потребует лидерства ни одной из сторон для объяснения гражданам, почему это якобы привело к потере определенных могущественных символов или отказу от целей, глубоко хранимых в сердце.

Подобный подход не является идеальным, но он намного предпочтительнее того, что сейчас происходит или может произойти при неблагоприятных обстоятельствах. Тем не менее, этот подход потребует, чтоб мы на сегодняшний момент оставили идею разрешения ближневосточного конфликта и вернулись к более скромной, но в то же время немаловажной задаче удержания контроля над ситуацией. ■

Project Syndicate

## Расія зарабляе на гандлі зброяй

Частка Расіі на сусветным рынку ўзбраенняў і ваеннай тэхнікі вырасла з 4,6% у 1998 годзе да 6,6% у 1999 годзе і склала 3,5 млрд. долараў, паведамляецца ў дакладзе брытанскага Міжнароднага інстытута стратэгічных даследаванняў. Рост аб'ёму паставак расійскай зброі і ваеннай тэхнікі на сусветны рынак у 1999 годзе ёсць, па меркаванні аналітыкаў IISS, вынікам дэвальвацыі рубля, а таксама ўзрошага попыту з боку Кітая, Індыі і некаторых афрыканскіх краінаў.

Між тым буйнейшым пастаўшчыком зброі на сусветны рынак застаецца ЗША. Іх доля ў 1999 годзе павялічылася з 47,6% да 49,1%. Другое месца трывала занятае Вялікабрытаніяй, на якую ў мінулым годзе прыпала 18,7%. Францыя ўтрымлівае 3-е месца ў свеце з 12,4%. Расія – на чацвёртым.

Асноўнымі пакупнікамі зброі, па-ранейшаму, застаюцца краіны Блізкага Усходу і Паўднёвай Азіі. Буйнейшым імпарцёрам ёсць Саудаўская Аравія, куды ў 1999 годзе было пастаўлена ўзбраенняў і тэхнікі на 6,1 млрд. долараў (на 44% менш, чым у 1998 годзе). Пастаўкі ў Тайвань таксама знізіліся і склалі 2,6 млрд. долараў.

Падзенне расходаў на закупку новых відаў узбраенняў на 2,2% назіраецца таксама і ў Еўропе, у той час як у ЗША аналагічны артыкул быў павялічаны ў 1999 годзе ў параўнанні з 1995-ым на 6,5%. Агульныя выдаткі на абарону ў Еўропе таксама паменшыліся. ■

## Косаўцаў чакаюць выбары

Лідэр косаўскіх албанцаў Ібрагім Ругова настойвае на правядзенні ў Косаве парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў. На мінулым тыдні старшыня Дэмакратычнай лігі Косава заявіў у Прышціне, што гэта стане ягонай мэтай пасля муніцыпальных выбараў, якія маюць адбыцца 28 кастрычніка пад эгідай ААН. Дарэчы, па прагнозах аналітыкаў, Дэмакратычная ліга павінна на іх атрымаць перамогу.

На думку Руговы, выбары павінны адбыцца ў першай палове наступнага года. Разам з тым ён яшчэ раз паўтарыў, што палітычнай мэтай албанскага руху ёсць незалежнасць Косава нават пры ўмове захавання там «міжнароднай прысутнасці». Зараз гэты край знаходзіцца пад часовым кіраваннем ААН і пад наглядам міжнароднага міратворчага, пераважна натаўскага, кантынгенту. ■

## Дактары памыліліся ў пацыенце

Чалавеку, якому ўпершыню ў свеце была зробленая трансплантацыя рукі, цяпер верагодна давядзецца яе ампутаваць. Як піша лонданская «Таймс», пацыент па імені Клінт Хэлэм звярнуўся нядаўна да дактароў з патрабаваннем адрэзаць прышытую яму руку.

Атрымаўшы адмову, ён абвінаваціў медыкаў у непрафесіяналізме. Хірург шпіталя Сэнт Мэры Надзі Хакім, адзін з тых, хто рабіў аперацыю, у адказ абвінавàціў у няўдалай трансплантацыі самога Хэлэма. Па ягоных словах, пацыент сам вінаваты, паколькі з самага пачатку прадставіў пра сябе лжывыя дадзеныя. Зараз ампутацыя рукі амаль непазбежная. Па словах урача, беспрацоўны і колішні зняволены з Новай Зеландыі Клінт Хэлэм з'явіўся для аперацыі, выдаючы сябе за багатага бізнесмена. Ён змог запэўніць урачоў, што ў яго дастаткова грошай, каб аплаціць дарагія лекі, якія б папярэдзілі адпрэчванне трансплантаванай рукі яго арганізмам. «Адбор быў вельмі строгім, але мы выбралі не таго пацыента», – прызнаў лекар.

Аналізы паказалі, што на працягу чатырох месяцаў пасля аперацыі К.Хэлэм ні разу не ўжыў неабходных лекі. Калі ўрачам дзесяць дзён таму ўдалося перакавець пацыента прыняць гэты прэпарат, то пачалі ягоная рука адразу пачаў паляпшацца. Узрадаваны небарака адразу ж заявіў, што руку можна і не ампутаваць, і зноў знік з відавоку дактароў. Другі пацыент, якому была праведзеная такая ж аперацыя, па словах хірурга, строга выконвае ўсе прадпісанні і вельмі ўдзячны за аперацыю. ■

ПЛАНЫ

# Новы газаправод праз Беларусь, Польшчу і Славакію

Алесь АБРАМОВІЧ

**Прадстаўнікі расійскага газавага канцэрна «Газпром» падпісалі пагадненне з некалькімі заходнееўрапейскімі партнёрамі аб пракладцы новага газаправода ў Заходнюю Еўропу праз тэрыторыю Беларусі, Польшчы і Славакіі, паведамляе агенцтва «Рэйтэр» са спасылкай на кіраўніка «Газпрома» Рэма Вяхірава.**

Вяхіраў заявіў, што ў пагадненні, акрамя «Газпрома», удзельнічаюць нямецкія газавыя кампаніі «Рургаз» і «Вінтэрсхаль», французская «Газ дэ Франс» і італьянская «Снам». Паводле інфармацыі «Рэйтэр», гэтыя кампаніі арганізуюць кансорцыум для ажыццяўлення праекта, які будзе каштаваць каля 2 мільярдаў долараў ЗША. Даўжыня праектуемага газаправода — каля 600 кіламетраў, а максімальная магутнасць складзе каля 60 мільярдаў кубічных метраў у год.

Кіраўніцтва «Газпрома» яшчэ летась абвясціла аб намеры будаваць новы газаправод у Заходнюю Еўропу праз Беларусь, абмінаючы тэрыторыю Украіны. Вяхіраў тады заявіў, што гэта было «адзіна адэкватным адказам на несанкцыяваны адбор газу на тэрыторыі Украіны», які, з ягоных словаў, перавышае 100 мільёнаў кубаметраў штодня. Аднак сёлета 23 ліпеня міністр эканомікі Польшчы Януш Штайнхоф заявіў пасля сустрэчы з украінскай дэлегацыяй, што ягоная краіна не дасць дазволу на будаўніцтва новага газаправода, які б мінаў Украіну. Паводле словаў польскага міністра, будаўніцтва такога газаправода было б выгаднае для Польшчы, але нанесла б эканамічную шкоду Украіне, сапсаваўшы добрыя адносіны паміж дзвюма краінамі.

Сённяшнія адносіны Польшчы да праекта таксама насцярожаныя. «Мы хочам быць транзітнай краінай і атрымоўваць выгады ад нашага геаграфічнага палажэння, але новая транзітная газавая лінія не можа быць праведзеная па нашай тэрыторыі без нашай згоды», — заявіў «Рэйтэру» 19 кастрычніка прэс-сакратар польскага ўрада Кшыштаф Люфт. Люфт паведаміў, што пакуль урад Польшчы не праводзіў афіцыйных перамоваў з удзельнікамі праекта. Ён сказаў, аднак, што намеснік міністра эканомікі Польшчы Анджэй Карбоўнік сустракаўся з дэлегацыяй Украіны, але пакуль што не было прынята ніякага рашэння. ■

БелаПАН

# Беларускае багацце: Чысціня

Міхал ЗАЛЕСКІ

**Яшчэ старажытныя знаўцы дзяржаўнага кіравання адзначалі, што ў пэўныя часы краіна адчувае вострую патрэбу ў людзях, якія без вялікага шуму і мітусні ўмеюць бруднае зрабіць чыстым.**

Трэба адзначыць, што не заўсёды задача ачышчэння была простай. Напрыклад цару Эліды Аўгію, які меў незлічоныя статкі і назбіраў у хлявах гною пад самы дах, давялося скарыстацца з паслугаў Геракла.

Ад тых часоў мала што змянілася. Татальная меліярацыя, урбанізацыя і імклівае развіццё ВПК за лічаныя паваенныя дзесяцігоддзі пачалі пераўтвараць наш край ва ўсесаюзную вайскова-калгасную сметніцу.

Яно і зразумела. Лес сякуць – трэскі лятуць, завод працуе – дым з коміну ідзе. Што ні рабі, як ні рабі, а смецце абавязкова будзе. У індустрыялізаванай Еўропе шалёныя зялёныя на злом галавы змагаюцца супраць таго смецця. Пры тым іх раздзіраюць канфліктныя пачуцці: хочацца мець вялікі ВНП (валавы нутраны прадукт) на кожную еўрапейскую душу і ў рэчцы купацца, каб скура потым не злазіла.

Але нас правадыр за Еўропай не павёў. Таму мы навучыліся ствараць дабаўленую вартасць, так бы мовіць, «па бяздымнай тэхналогіі». І ВНП у нас расце, і шкодных выкідаў робіцца ўсё меней.




Навошта нам той Геракл. Калгасных каровак мы паціху пад'ядаем, меліярацыйныя канавы павольна заплываюць, птаства рознае і звяры распаўсюджваюцца.

Будзем сюды тых зялёных дзівакоў з іхнай Еўропы да нас на экскурсіі за вялікія грошы пускаць. Няхай павучацца, як жыць трэба ў радасці. ■

# МВФ заклікае Беларусь да «фундаментальных рэформаў»

Аляксей ЗНАТКЕВІЧ, БелаПАН

**Мінск, 22 кастрычніка. Падчас штогадовых кансультацыяў з Беларуссю Савета дырэктараў Міжнароднага валютнага фонду (МВФ), якія адбыліся ў Вашынгтоне 13 кастрычніка, большасць дырэктараў фонду прыйшлі да высновы, што фінансавая дапамога, аб якой просяць беларускія ўлады, магчыма толькі пасля выканання краінай кароткатэрміновай праграмы рэформаў пад назіраннем экспертаў МВФ. Як раней паведамляў БелаПАН пастаянны прадстаўнік МВФ у Літве і Беларусі Марк Хортан, тэрмін выканання такой праграмы зойме каля двух кварталаў, і, нават пры найбольш аптымістычным сцэнарыі, рашэнне аб аднаўленні крэдытавання Беларусі будзе прынятае не раней за лета 2001 года.**

Савет дырэктараў МВФ падкрэсліў у прэс-рэлізе па выніках паседжання, што Беларусі патрэбна паўнавартасная праграма рэформаў, якая б уключала ў сябе паслядоўны план структурных пераўтварэнняў. Асноўнымі рэкамендацыямі МВФ для Беларусі былі наступныя:

— прыняцце больш жорсткай бюджэтнай і грашовай палітыкі, якая б дазволіла трымаць пад кантролем дэфіцыт бюджэту і інфляцыю;

— адстойванне Нацыянальным банкам незалежнасці ў прыняцці рашэнняў;

— скарачэнне кантролю за цэнамі і зарплатамі, і агульнае змяншэнне дзяржаўнага ўмяшальніцтва ў эканоміку;

— паляпшэнне ўмоваў для малога і сярэдняга бізнесу, у тым ліку скасаванне бюракратычных бар'ераў для рэгістрацыі новых прадпрыемстваў;

— скарачэнне субсідыяў дзяржаўным прадпрыемствам;

— правядзенне банкаўскай рэформы і змяншэнне дзяржаўнага ўмяшальніцтва ў банкаўскую сферу.

МВФ вітаў уніфікацыю афіцыйных абменных курсаў беларускага рубля, лібералізацыю валютнага рынку і падтрыманне працэнтнай стаўкі па крэдытах Нацбанка вышэй за ўзровень інфляцыі. Фонд выказаў спадзяванне, што гэтыя крокі з'яўляюцца паказчыкам таго, што беларускія ўлады ўсведамляюць неабходнасць фундаментальных рэформаў і гатовыя да іх правядзення. ■

Рэдакцыя прапаноўвае сваім падпісчыкам аформіць падпіску праз аддзяленні «Беларусбанка».

Для афармлення падпіскі адпаведную квітанцыю (гл. ніжэй) трэба выразаць нажніцамі. Адзначце ў квітанцыі тэрмін, на які афармляеце падпіску, прозвішча падпісчыка і паштовы адрас, на які дастаўляць газету.

**Кошт падпіскі на адзін месяц 675 руб. Калі вы жадаеце падпісацца на больш тэрмін, то павялічце суму ў адпаведную колькасць разоў.**

## КВІТАНЦЫЯ ДЛЯ «БЕЛАРУСБАНКА»

Форма № ПД-5

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(индекс) (адрес)

На 2000 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

За подписку на газету «Наша СВАБОДА» Сумма

Плательщик Пеня Всего

Кассир

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество, адрес)

На 2000 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**КВИТАНЦИЯ**

За подписку на газету «Наша СВАБОДА» Сумма

Плательщик Пеня Всего

Кассир

# Тэрмінова патрэбна залатая рыбка



Канстанцін СКУРАТОВІЧ

**Вядома, няма для чалавека больш прыемнай падзеі, чым добры плён яго працы. Але не заўсёды.**

Прыкладам, беларускія рыбгасы не ведаюць, куды збыць выгадаванага сёлета карпа. Аб гэтым можна даведацца з «Советской Белоруссии»(18.10.00), якая піша пра тое, што з 2.326 тон свежай рыбы, якую вылавілі з сажалак на пачатак кастрычніка, прададзена ўсяго 885 тон. Астатні «жывы тавар» гаспадаркі трымаюць у спецыяльных садках, дзе ён губляе вагу і свой уласны, гэта значыць таварны, выгляд.

Чаму так, гэта рытарычнае пытанне, на якое мы ўжо адказалі ў матэрыяле «Килька в день — улов белоруса». У народа няма грошай, каб купляць таго карпа па цане 1.300-1.400 рублёў за кіло жывой вагі, з якой значная частка пойдзе ў памыйнае вядро. Лепш ужо мяса купіць.

Карацей, рыбная гаспадарка перажывае класічны крызіс збыту. І чым большы ўраджай мае рыбгас, тым большыя страты ён нясе. Выпадак хрэстаматыйны, добра знаёмы па падручніках кожнаму школьніку. Якое з яго можа быць выйсце. Ёсць некалькі варыянтаў. Можна павялічыць людзям рэальныя заробкі (калі гэта магчыма на неінфляцыйнай аснове), тады яны з задавальненнем раскупяць усіх карпаў ды яшчэ будуць прасіць — дай. Зразумела, што гэты самы прывабны варыянт не падлягае хуткай рэалізацыі. Ён нейкім чынам выпадае з русла дзяржаўнай эканамічнай палітыкі.

А можна зменшыць вытворчыя затраты рыбгасаў, тады тавар стане больш танным. Але для гэтага патрэбныя новыя тэхналогіі, нейкія новыя менш пражорлівыя за карпа пароды рыб. У сваю чаргу, на гэта патрэбныя грошы, якіх няма. Таму самы аптымальны варыянт — гэта пакінуць карпаў у сажалках, хай жывуць там як хочуць. Бо калі машына з рыбгаса цэлы дзень соўгаецца па Мінску, каб уталкаваць карпаў па магазінах для рэалізацыі, то страты ад гэтага толькі растуць. Але і самы аптымальны варыянт непрахадны. Таму што рыбгасы дзейнічаюць паводле прынятай два гады таму ўрадавай праграмы забеспячэння насельніцтва рыбай, пад якую яны атрымалі крэдыты і павялічылі вытворчасць рыбы больш чым у паўтара раза. Цяпер рыбгасам трэба да канца года заплаціць 5 млрд. рублёў за крэдыты. Таму, у каго большыя памеры вытворчасці, больш трэба і плаціць. А грошы можна ўзяць толькі прадаўшы рыбу. А чым больш ты яе прадасі, тым большыя страты атрымаеш. Застаецца чакаць толькі цуду: раптам рыбацкі невад разам з карпамі прынясе і залатую рыбку? Але ўсе разбітыя ночвы, варыянт больш верагодны.

Таму што робяцца гэтыя ночвы спецыяльна па высокіх дзяржаўных указах. А ва ўрадзе, такое ўражанне, даўно забыліся не толькі пра тое, што пішацца ў падручніках па элементарнай эканоміцы, але і пра тое, што пісаў Пушкін у сваёй казцы пра залатую рыбку. ■

